# МІНСКІЯ «СУТАЧНІКІ»



У ЯКІХ УМОВАХ ЯНЫ СЯДЗЯЦЬ СЁННЯ

СТАР. 4–5

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

# БЕЛАРУСКУЮ ЦАРКВУ

Ў ЛОНДАНЕ СПРАЕКТАВАЎ …КІТАЕЦ




СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

07.12.12-12.12.12 г.

# БЕРАЖЛІВАСЦЬ БЕЗ МЕЖАЎ І ЗАБАБОНАЎ

На 2013 год Лукашэнка ўсклаў асаблівую місію.



*Беражлівасці аднымі аб'яўленнямі ці ўказамі не дасягнуць*

## ВОСЬ ТАБЕ І "НОВЫЙ ОБЛИК»

У сярэдзіне нулявых гадоў XXI стагоддзя ў Беларусі была аднаўлена савецкая традыцыя:кожнаму году пачалі надаваць нейкі ўмоўны статус.

> "У той жа час прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч мае значна даражэйшы хранометр — за 37 тысяч долараў, і таксама не адзін".

Так, 2006-ты быў абвешчаны Годам маці. ПотымбыўГод дзіцяці. Можна было чакаць, што наступны назавуць Годам бацькі, аднак здарылася гендарная дыскрымінацыя. Праігнараваўшы ролю бацькі ў сям'і і грамадстве, 2008-мы зрабілі Годам здароўя.

Далей ішоўГод роднай зямлі (усе астатнія, значыць, «гады чужых земляў»?). Асабліва ж парадавала повязь 2010 і 2011-га, якія лічыліся адпаведнаГодам якасці іГодам прадпрымальніцтва.

Што тычыцца першага, то ў прэзідэнцкім указе з гэтай нагоды адзначалася, што ён абвешчаны «в целях дальнейшего повышения качества жизни белорусского народа, предусматривающего подъем экономики и обеспечение ее конкурентоспособности (…), кардинальное улучшение условий труда и быта людей, рост их благосостояния».

Другі жатрымаў сваю назву «в целях создания нового облика белорусской экономики (...),повышения благосостояния и качества жизни граждан».

У выніку,у 2010-м быў забяспечаны такі "ўздым эканомікі", што ў 2011-м яна ляснула з раней нябачаных вышынь з неймаверным трэскам. Рэкордная дэвальвацыя так адбілася на дабрабыце і якасці жыцця беларусаў, што некаторыя не ачунялі дагэтуль.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# АНДРЭЯ ЧАРНЯКЕВІЧА НЕ АДНАВІЛІ

Ленінскі раённы суд Гродна адхіліў пазоў гісторыка Андрэя Чарнякевіча, які імкнуўся аднавіцца на працы ў Гродзенскім універсітэце.

Спрабаваць аднавіцца на працы далей — бессэнсоўна, сказаў сам Андрэй Чарнякевіч, кандыдат гістарычных навук.

Ён быў звольнены ў верасні з Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, дзе займаў пасаду дацэнта, «за парушэнне працоўнай дысцыпліны». Андрэй Чарнякевіч — адзін з аўтараў падручніка «Гродназнаўства», што быў выдадзены «Гарадзенскай бібліятэкай».

Справа займела ў Інтэрнэце вялікі рэзананс, на сайце «Нашай Нівы» за Андрэя было сабрана каля 400 подпісаў (падпісанне ініцыявалі гродзенскія гісторыкі Алесь Краўцэвіч і Алесь Смалянчук), але далей справа не пайшла.



# ЧЫМ ВАМ ЗАПОМНІЎСЯ 2012 ГОД?

Карэспандэнт “Тут і цяпер” апытаў вядомых людзей краіны, якія ўспаміналі самае значныя ў іх разуменні падзеі і з’явы, што адбыліся ў гэтым годзе.



**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ, ПІСЬМЕННІК:**

## “ПАЛІТВЯЗНІ, “ARCHE”, БАТЭ”.

— Як грамадзяніну Рэспублікі Беларусь адыходзячы год мне запомніцца ліставаннем з палітвязнямі, у прыватнасці з Алесем Бяляцкім і Міколам Статкевічам. Ліставанне было аднабаковае — мае лісты і паштоўкі да адрасатаў не даходзілі. На шчасце, дайшлі віншавальныя тэлеграмы. Спадзяюся, што ў новым годзе павіншую ўсіх палітвязняў з вяртаннем на волю. Як пісьменніку гэты год мне запомніцца тым, што незалежна ад нечых указаў у мяне ён сапраўды атрымаўся годам кнігі. Пачаўся год з выхаду маёй кнігі-дыялога з чытачамі “Пакуль ляціць страла”. Затым выйшаў вельмі важны для мяне том выбраных вершаў “Свецяцца вокны, ды нікога за імі” і таксама доўгачаканы фаліянт “Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя”, над якім мы працавалі разам з мастаком Змітром Герасімовічам. У Арлова-чытача 2012 год застанецца ў памяці найперш гісторыяй з часопісам “ARCHE”. Вельмі хацелася б памыліцца, але мне здаецца, што гэтае выданне еўрапейскага ўзроўню папоўніць спіс знішчаных уладай газет і часопісаў. А Арлоў — футбольны заўзятар, здаецца, ніколі не забудзе феерычную перамогу БАТЭ над мюнхенскай “Баварыяй”.

**АНТОН АСТАПОВІЧ, СТАРШЫНЯ БЕЛАРУСКАГА ДОБРААХВОТНАГА ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ:**

## “ІДУЦЬ БАІ ЗА ЦЭНТРЫ ГАРАДОЎ”.

— Адыходзячы год нічым не адрозніваўся ад астатніх гадоў. Гэта пастаянная, руцінная работа па юрыдычных пытаннях у галіне аховы спадчыны. Але ж у гэтым годзе ёсць пэўныя прыемныя моманты. Наша вялікае дасягненне ў тым, што мы прымалі актыўны ўдзел у распрацоўцы змяненняў і дапаўненняў у “Закон аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны”. І ў гэтым годзе былі канчаткова прыняты шматлікія змяненні і дапаўненні, якія распрацоўваліся непасрэдна нашым таварыствам. Гэта дапамагло зрабіць закон аб ахове спадчыны больш дасканалым і канкрэтызаваным. Яшчэ застаюцца нявырашанымі пытанні па гістарычных цэнтрах беларускіх гарадоў.

Па нашых прапановах шэрагу аб’ектаў нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. У тым ліку тром мясцінам, якія звязаны з паўстаннем 1863 года. У Мінску не спыняюцца жарсці вакол перспектыўнага праекта засваення тэрыторыі замчышча, дзе яшчэ можна правесці навукова абгрунтаванае, бездакорнае аднаўленне страчанай забудовы, каб хоць у адным куточку гістарычнага цэнтра Мінска захаваць вобраз старога горада. Вуліцу Зыбіцкую мы сёлета прайгралі: там рэалізоўваецца праект, які не адпавядае ні былой планіровачнай структуры, ні элементарнаму густу.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ, ПІСЬМЕННІЦА:**

## “Я ЖЫЛА Ў XVIII СТАГОДДЗІ”.

— Для мяне вельмі вызначальна, што ў гэтым годзе выйшлі два мае раманы — “Сутарэнні Ромула” і “Забіць нягодніка”. Для мяне гэта было сапраўды важна, аднак крыху нечакана, што такі розгалас атрымаўся: кнігу пачалі актыўна абмяркоўваць, і не толькі ў Беларусі, як высветлілася. У гэтым годзе я завяршаю сваю авантурна-прыгодніцкую трылогію пра XVIII стагоддзе — “Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега”. Цікавы час, першыя гады праўлення Станіслава Панятоўскага і караля Аўгуста III. Спадзяюся, што да канца года пастаўлю кропку і з гэтага XVIII стагоддзя выйду. Яшчэ вельмі вызначальны для мяне момант 2012 года — гэта 10 гадоў суполкі “Літаратурнае прадмесце”. Выдалі да юбілею агульны зборнік. Не адно пакаленне прайшло праз гэтую суполку. Літаратурная вучоба, дыскусіі, імпрэзы, вандроўкі. Вельмі прыемная для мяне дата.

**ПАВЕЛ ХАРЛАНЧУК, АКЦЁР ТЭАТРА І КІНО:**

## “МЫ ПРОСТА ЗАСТЫЛІ…”.

— Не магу сказаць, што 2012 год нечым парадаваў. Так сумна я сябе яшчэ ніколі не адчуваў. Працы, зразумела, хапала, але мне асабіста чагосьці не стае. Можа, нейкіх якасцей, якія трэба набываць… Самае горшае, што сітуацыя і не кепская, і не добрая. Усё неяк роўненька. І гэта засмучае. Я не адчуваю перспектывы. Адчуванне стаячай вады. Мы застылі паміж мінулым і будучым, паміж добрым і кепскім, паміж Захадам і Усходам. Можа, гэта толькі маё адчуванне, што мы нікуды не ідзём — і не падаем, і не ляцім. Адзінае, што сапраўды радуе, дык гэта сям’я. Слава Богу, што яна ёсць. Дзеці — гэта жывая энергія. Толькі ад іх яе і набіраюся. Буду спадзявацца, што ў наступным годзе будзе нейкі штуршок. Нешта павінна змяніцца.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# БЕРАЖЛІВАСЦЬ БЕЗ МЕЖАЎ І ЗАБАБОНАЎ

## АПТЫМІЗАВАЛІ…

Не дзіўна, што 2012-ты сціпла зрабілі Годам кнігі. А неўзабаве нас чакаеГод беражлівасці.Лукашэнка ў сваім чарговым указе спадзяецца, што гэта «будет способствовать решению задач совершенствования организации производства, повышения производительности труда, качества продукции и услуг за счет оптимизации расходов, рационального использования ресурсов, исключения всякого рода необоснованных потерь».

Наконт аптымізацыі выдаткаў сам кіраўнік Беларусі рэгулярна падае грамадзянам прыклады, вартыя пераймання. Так, Лукашэнка ашчадзіў шмат грошай, набываючы сабе чарговы “Боінг”, бо купляў “сэканд-хэнд” – самалёт, на якім раней лётаў Туркменбашы. Дакладную суму ад грамадства сціпла прыхавалі, але вядома, што яна складае прыблізна 124 мільёны долараў. Навюткі лайнер з такім шыкоўным аздабленнем (залатыя шторы, аздабленне з каштоўных камянёў і г.д.) каштаваў бы значна даражэй… Яшчэ б даведацца, дзе “Боінг”, на якім раней сноўдаўся па свеце Лукашэнка, і,упэўнены, з’явілася б яшчэ адна нагода пляскаць у далоні яго бязмежнай беражлівасці.

Ізноў жа, гадзіннікі, якімі карыстаецца кіраўнік нашай краіны, — гэта проста “эканом-клас”. Адзін каштуе каля 17 тысяч долараў, другі — прыкладна столькі ж. У той жа час прэм’ер-міністр Міхаіл Мяснікові́ч мае значна даражэйшы хранометр — за 37 тысяч долараў, і таксама не адзін.

## ДЗЕД МАРОЗ ГАРАНТУЕ

Натуральна, што паводзіны першай асобы пераймаюць падначаленыя ёй чыноўнікі. Летась, у пік “эканамічнага ўздыму” і адпаведнага “росту дабрабыту” беларускіх грамадзян, губернатар Берасцейшчыны Канстанцін Сумар набыў сабе новы “Аўдзі” коштам больш за 100 тысяч долараў. Як па-гаспадарску падышоў — мог жа і “Бэнтлі” за паўмільёна “зялёных” купіць за кошт бюджэту!

Але ёсць яшчэ над чым працаваць, бо асобныя прыклады безгаспадарнасці ў нас яшчэ не вынішчаны. Некаторыя зласліўцы днямі пачалі тыцкаць пальцамі ў фота, на якіх работнікі кладуць асфальт у снег. Аднак гэта магчыма толькі таму, што Год беражлівасці яшчэ не надышоў. А вось з 1 студзеня такіх выпадкаў больш не будзе.

Праўда, праўда, Дзед Мароз гарантуе!



*Адной свінёй-капілкай не абыйдзешся*

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# УЛАДА СТВАРАЕ САБЕ НЕДОБРАЗЫЧЛІЎЦАЎ

**Нядаўна жыхары найстарэйшага мікрараёна Магілёва“Юбілейны” выйшлі з дамоў і ўторкнуліся ў высокую агароджу, за якойгрукатала тэхніка і чуліся галасы рабочых.**

Аказваецца, тут пачалося будаўніцтва вышыннага дома дзеля “ўшчыльнення свабоднай тэрыторыі”. Хто, што, калі, як, па чым дазволе, па якой дакументацыі і г.д. —даведацца пра гэта рабочыя пасылалі жыхароў… да гарадскога начальства.

Жыхары мікрараёна абралі для такой місіі давераных асоб. Тыя,пабадзяўшыся па розных кабінетах,дазналіся толькі аб тым, што ўжо ведалі і так: тут паўстане,у адпаведнасці з генпланам горада,дванаццаціпавярховік, для чаго давядзецца спілаваць больш як 30 бяроз, што былі калісьці высаджаны жыхарамі, а ў перспектыве (таксама па генплане) тут падымуцца яшчэ тры такія ж дамы.

Аднак ні дакументацыі на будаўніцтва, ні зацверджанага праекта, ні рашэння гарвыканкама наконт “ушчыльнення” — нічога, што ў такіх выпадках справядліва цікавіць людзей, ні ў адным кабінеце гарвыканкама не паказалі.“Чакайце”, — сказалі,— прыедзем на месца, патлумачым”.

І прыехалі. Але не прадстаўнікі гарвыканкама (іншымі словамі, не ўлада), а прадстаўнікі забудоўшчыкаў:дырэктар ААТ “Домабудоўля” Канстанцін Кожыч і дырэктар Магілёўскага домабудаўнічага камбіната Руслан Пархімовіч, генпадрадчык. Яныталькі паўтарылі тое, што людзі ўжо ведалі: пра генплан, у прыватнасці.

Вось і адказ на тое, чаму не ўлада вядзе сёння перамовыз людзьмі. Той генплан быў распрацаваны і зацверджаны напачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Ажыццявіць яго тады не хапіла ні сродкаў, ні імпэту.Потымнават і краіна супольная знікла, новая ж наша яшчэ толькі нараджалася. Тады і парадкаў такіх не было, як сёння: зацвердзілі што захацелі, не пытаючыся ў людзей — і рабі. А цяпер іначай, цяпер такія рэчы трэба ўзгадняць з “народам”, ладзіць розныя “грамадскія слуханні”. Вось іх і пастаралася абмінуцьмагілёўская ўлада, накіраваўшы на перамовы з жыхарамі “Юбілейнага” хоць і высокіх службовых асоб, але ад будаўнікоў, а не ад сябе. Бо размова “ад сябе” адпачатку мусіла б быць іншай…

І вось яшчэ дэталь, на якую звярнулі ўвагу незалежныя журналісты. На пытаннепра дэталі будоўлі(на беларускай мове, натуральна), адрасаванае дырэктару той самай “Домабудоўлі”, сп. Кожыч адказаў коратка і дакладна: “Я па-беларускі не панімаю”. Так і хочацца дадаць: не ён адзін, на жаль.

**ВІКТАР ВОЙТ**

**P.S.**

**Што тычыцца новабудоўлі, то, як любяць гаварыць чыноўнікі, пытанне пакуль што не закрыта. Капаць у катлаване працягваюць, павесіць на агароджы неабходную ў такіх выпадках інфармацыю абяцалі,аднак людзі вырашылі прадоўжыць барацьбу за сваю праўду, пачаўшы,у прыватнасці, з адстойвання бярозавага гаю і права на абмеркаванне праблемы, што ўзнікла.**

# У ЯКІХ УМОВАХ СЁННЯ СЯДЗЯЦЬ МІНСКІЯ "СУТАЧНІКІ"?

**Зараз "сутачнікі" адбываюць пакаранне на новым месцы — пад іх "выдзелілі" два паверхі сталічнага ізалятара часовага ўтрымання. "Тут і цяпер" разбіралася, што гэта такое.**

Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў у Мінску, сумнавядомы "Акрэсціна", нарэшце зачынены на рамонт. Гэтага даўно дамагаліся праваабаронцы, якія напісалі шмат скаргаў на ўмовы ўтрымання ў гэтым легендарным месцы.

Пра гэта "Тут і цяпер" распавядае адзін з першых "сядзельцаў" у новых умовах — адзін з лідараў міжнароднага грамадскага аб'яднання "Альтэрнатыва" (Латвія) Алег Корбан.

Нагадаем, што актывісты "Альтэрнатывы" 11 кастрычніка правялі флэшмоб супраць дзяржаўнай прапаганды. Каля рэстарана "МакДональдс" на вуліцы Няміга маладыя людзі ўстанавілі стары савецкі тэлевізар, экран якога быў аблеплены лагатыпамі дзяржаўных беларускіх тэлеканалаў. На тэлевізар яны паставілі талерку з локшынай, якую таксама раскідалі навокал. Каля тэлевізара была ўстаноўлена таблічка з надпісам "Ахвяраванні на заробак БТ". Вакол таблічкі былі раскіданы скамечаныя дробныя купюры.

Вечарам 11 кастрычніка Корбана затрымалі, склалі пратакол па арт. 17.1 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях (дробнае хуліганства) і 12 кастрычніка прысудзілі 5 сутак адміністратыўнага арышту. І адправілі ў новы корпус.

## ШТО ЗА БУДЫНАК?

— У прынцыпе, гэта сучасны будынак, па турэмных мерках. У "амерыканцы", дарэчы, дзе я пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года правёў 20 дзён, умовы значна горшыя.

Для "сутачнікаў" перададзены некалькі паверхаў — другі і, здаецца, трэці. Першы паверх застаўся для тых, хто трапляе па крымінальных падазрэннях, да вызначэння асобы альбо да перапраўкі на "валадарку" ў следчы ізалятар.

Варта адзначыць, што разам з "сутачнікамі" ў новыя ўмовы пераехаў і персанал старога корпуса. Яны нават яшчэ не ведалі пра размяшчэнне зняволеных і пастаянна блыталі нумар нашай камеры, называючы яе то чацвёртай, то трынаццатай, то трыццаць другой… То бок самі не звыкліся яшчэ з гэтымі сценамі.




**Камера ІЧУ для "сутачнікаў":**

*1-2 — нары*
*3 — стол, прыкручаны да падлогі*
*4 — лава, прыкручаная да падлогі*
*5 — палічка для кніг*
*6 — умывальнік*
*7 — прыбіральня*
*8 — вентыляцыя*
*9 — радыё над дзвярыма*
*10 — акно*

## КАМЕРА

Першае, што ўражвае: у адрозненне ад старога будынка, ёсць так званыя "нары", а не "сцэна". У маёй камеры было 5 месцаў, то бок 2 двухпавярховыя ложкі і адзін аднапавярховы. Аднак у нас камера была нейкая "скошаная", то бок не цалкам прамакутная. Уладзімір Сяргееў, які быў асуджаны са мной, сядзеў у іншай, прамакутнай камеры. Там было шэсць месцаў: тры блокі двухпавярховых "нар". А паколькі ёсць ложкі, адпаведна, ёсць і матрацы, і камплект пасцельнай бялізны, чаго, здаецца, ніколі не было ў старым корпусе.

Камера па тэрыторыі большая — прыкладна 10 на 7 метраў. У старым будынку там толькі недзе паўтара метра было ад "сцэны". Ёсць магчымасць хаця б адціскацца, хадзіць. Пол драўляны, не бетонны. На сценах ёсць палічка для таго, каб паставіць кнігі.

Другое ўражанне — прыбіральня. Гэта не проста ўнітаз на падлозе, а прыбіральня, якая адгароджваецца "ў поўны рост" і знаходзіцца па-за зонай "вочка" ў дзвярах камеры. То бок, калі раней дзяўчаты скардзіліся, што ім няёмка спраўляць патрэбы ў той час, калі ў любы момант можа зазірнуць канвойны, то цяпер гэтая праблема вырашана. Атрымліваецца асобная кабінка. Ва ўмывальніку ў кране ёсць цёплая і халодная вада.

У камеры, як і мусіць быць, ёсць акно. Яно невялікае, закратаванае і знаходзіцца высока. Праз яго нават не бачна, што на вуліцы — дождж, снег ці сонца. Яго нельга адчыніць, а гэта важна, бо дрэнна працуе вентыляцыя. Калі людзі ў камеры пачыналі паліць, утвараўся смог, дым асядаў на вопратку, на скуру. Гэта праблема тых, хто не паліць.

Пад акном — прывінчаны да падлогі стол, побач — лава, таксама прыбітая. Можна пісаць, але не выдаюць ні шашкі, ні шахматы, ні даміно. Таму, як і ў старым будынку, на гэтым стале адразу намаляваны палі для гульні, шахматная дошка і г.д. Але, на жаль, у нашай камеры ні ў кага не знайшлося фігурак, хаця б вылепленых з хлебнага мякішу, бо, як казалі нам папярэднія "сядзельцы", рэгулярна ладзяцца "шмоны" і гэтыя фігуркі вымаюцца.

У камеры гарыць дзве лямпы, але яны слабыя, увечары цемнавата. Тым больш што адна з іх у маёй камеры перагарэла.

Больш спрыяльная тэмпература (сярэдняя). У старым корпусе было холадна, а тут — больш-менш. Пакаёвая тэмпература.

Дарэчы, у камеры ёсць радыёпрыёмнік, які працуе ўвесь дзень, ад 6 да 24 гадзін. У нас у камеры гучала трансляцыя радыё "Сталіца". З аднаго боку, баўбатня пад




*Задумаліся і ў нас пра ўмовы ўтрымання зняволеных*

вухам камусьці мо і не спадабаецца, але прыглушыць радыё ці выключыць яго немагчыма. Але для нас перавага ў тым, што мы былі ў курсе ўсіх падзей, хоць і праз прызму дзяржпрапаганды. Вялікі плюс гэтага радыё: мы заўсёды ведаем, колькі часу, бо гадзіннікі, як і раней, забіраюць.

Дарэчы, калі мы сядзелі, транслiравалася прэс-канферэнцыя Лукашэнкі расійскім журналістам. Мы былі проста ў захапленні: столькі тэм для разваг!

## ПА-ЗА КАМЕРАЙ

Яшчэ вельмі ўразіла, што ладзіцца шпацыр. За пяць сутак мы выходзілі два разы на прагулкі. Але, як нам распавядалі людзі, якія там сядзелі 10—15 сутак, такі шпацыр ладзіцца два разы на тыдзень. Прычым ён адрозны ад той жа "амерыканкі": у "амерыканцы" ты павінен увесь час хадзіць. Тут ты можаш стаяць, дыхаць паветрам, рабіць фізічныя практыкаванні, хадзіць, ляжаць — рабіць, што хочаш.

Пакой для прагулак — недзе 10 на 5 метраў, як і стандартны пакой, з бетоннымі сценамі і сеткай наверсе. Прагулка доўжыцца прыкладна паўгадзіны.

Раз на тыдзень выводзяць у душ. Але на мыццё даецца толькі 15 хвілін. Адпаведна, выдаецца па кавалку мыла, хоць і дробнага. Яго выдаюць адразу, як прыводзяць у ІЧУ.

З чым там праблема засталася, дык гэта з туалетнай паперай. Замест яе пры "пасяленні" мне выдалі нарэзаную стočам "Советскую Белоруссию".

## ЕЖА

Ежа не змянілася. Наколькі я ведаю, яе пастаўляе кафэ "Валгаград". Зранку — каша (пярлоўка, рыс) і кубак цёплай (негарачай) гарбаты без цукру. Удзень — суп (булён ці боршч) і каша з катлетай. Увечары — зноў каша і гарбата.

Што тычыцца мяса, то калі гэта свініна, яшчэ больш-менш. Рыба падобная на рыбную катлету — проста цалкам перакручаная рыба, з галавой, хвастом і касцьмі. Яе есці небяспечна.

Пасля адбывання сутак у нас пыталіся: як умовы? заўважылі адрозненні? ёсць адчуванне таго, што тут лепш сядзець? Канечне ж, лепш.

**РАЗМАЎЛЯЎ СЯРГЕЙ КОЎШ**

# ІНФЕКЦЫІ Ў АРГАНІЗМЕ ЦІ Ў ГАЛАВЕ?

**Знаходжанне ў бальніцы з дзіцем — справа малапрыемная і вельмі нервовая, асабліва калі пацыентам даводзіцца аплачваць лекі са сваёй кішэні, эпікрыз на рукі не выдаецца, а персанал бярэ дзіцячы кал на аналіз прама з падлогі і абяцае, што неўзабаве класціся ў бальніцу прыйдзецца са сваімі пасцельнымі рэчамі.**

## ТАПАК НА ЎСІХ НЕ ХАПАЕ

З такімі ўмовамі сутыкнулася мая сяброўка мінчанка Паліна, якая трапіла ў інфекцыйнае аддзяленне ўстановы аховы здароўя "Навагрудская цэнтральная бальніца", калі з сынам Ягорам гасцявала на вёсцы ў бабулі.

Урач западозрыў у хлопчыка сальманелёз з-за паносу зялёнага колеру. На пратэсты Паліны, што, магчыма, гэта "рэакцыя на зубы", якія прарэзваліся якраз у той час, ён, нават не паглядзеўшы ў рот немаўляці, канстатаваў: "Неабходна выключыць абязводжванне, таму ехаць у стацыянар трэба неадкладна".

— *Я вырашыла паверыць падазрэнням доктара і згадзілася паехаць у бальніцу,* — уздыхае жанчына. — *Тое, што везлі нас 25 кіламетраў на машыне, дзе тормаз то знікаў, то з'яўляўся, я проста паспрабавала забыць, як страшны сон. Але ж бальнічныя парадкі заявілі пра сябе адразу ў прыёмным пакоі. Спачатку мне настойліва рэкамендавалі набыць халат і тапкі, бо без іх аніяк нельга класціся на лячэнне.*

"Як гэта вы без халата і тапак паехалі ў госці? Якая нядбайнасць! Трэба ўсё мець з сабой, у нас не хапае на ўсіх. Неўзабаве будзеце з сабою пасцель прывозіць".

"У нас рыначак недалёка ёсць, танны, халат там не больш за 100 тысяч каштуе".

Такія парады пасыпаліся на галаву Паліны з боку абслуговага персаналу. Даведзеная да адчаю, яна схадзіла з сынам на рынак і купіла за 55 тысяч тапкі, пасля чаго яе з Ягорам "засялілі" ў палату. Купляць "танны" халат за 100 тысяч яна адмовілася, бо грошай амаль што не засталося. Тады персанал знайшоў для Паліны бальнічную піжаму.

— *Са сваімі пасцельнымі рэчамі да нас ніхто яшчэ не прыязджаў. Часам бяруць з сабой плед, але мы адчытваем такіх пацыентаў, бо рэч потым неабходна абеззаражваць,* — пракаменціравала сітуацыю Тамара Новікава, загадчыца інфекцыйнага аддзялення. — *Тапак у нас сапраўды на ўсіх не хапае, а ў палаце не павінна быць красовак і джынсаў. Але ж не кожны апране бальнічную піжаму — некаторыя чакаюць, пакуль прывязуць з дому, або самі сходзяць і купяць.*

## ЛЕКІ — НА ВЫБАР, ЭПІКРЫЗ — ПА ЗАПАТРАБАВАННІ

Загадчыца аддзялення назначыла лячэнне: таблеткі, раствор для піцця, ніфураксазід і смекту. Два апошнія лекі Паліне прыйшлося купіць самой. Карэспандэнт "ТіЦ" даведалася, чаму.

— *Пэўная частка лекаў у нас ідзе як платныя паслугі. У асноўным гэта прэпараты замежнага паходжання, хаця перыядычна бываюць і бясплатныя іх паступленні. Такое становішча ва ўсіх аддзяленнях,* — патлумачыла загадчыца. — *Гэтыя лекі пастаўлены нам у абавязак для лячэння, але ў аптэцы нашай бальніцы яны прадаюцца крыху танней. Добрыя лекі каштуюць добрых грошай, але не кожны можа дазволіць сабе лепшае. Адзін купляе гептрал за 400 тысяч, а іншы — гепататранзіт за 65 тысячы. Калі хтосьці не купіць ніфураксазід (50—60 тыс.), гэта не значыць, што мы не будзем яго лячыць — прызначым, напрыклад, фуразалідон (5000). Альтэрнатыва ёсць заўсёды.*

Шкада толькі, што пра існаванне гэтай альтэрнатывы Паліна даведалася толькі пасля выпіскі. Дарэчы, па яе словах, усё лячэнне яна магла б правесці Ягору і дома, каб не знаходзіцца побач з рознымі інфекцыямі (інфекцыйнае аддзяленне тут адно — і для дарослых, і для дзяцей). Але яна чакала эпікрыз, бо не хацела выходзіць пад распіску. Аказалася, што гэты дакумент у Навагрудку можна атрымаць на рукі толькі па патрабаванні.

— *Бальнічнымі правіламі пацыентам забараняецца выходзіць з палаты, але туалет — на калідоры, а сушыць адзенне можна толькі на вяроўцы на вуліцы,* — дзялілася ўражаннямі Паліна. — *А паводзіны некаторых асоб у белых халатах увогуле не паддаюцца апісанню. Каб сэканоміць падгузкі на той момант, калі ў сына быў панос, я пусціла яго па палаце ў трусах. Неўзабаве ён "схадзіў" на падлогу, пасля чаго запатрабаваў грудзі. Якраз у гэты момант увайшла акушэрка. Я пажартавала: "Вось мы для аналізу вам пастараліся". І што б вы думалі — яна саскрэбла крыху рэчыва ў прабірку, пасля чаго заявіла: "Вытрыце падлогу".*

Паліне прыйшлося выціраць пол сурвэткамі, а калі яна спрабавала паскардзіцца загадчыцы аддзялення, тая адказала: "гэты аналіз, як правіла, усё роўна нічога не паказвае, але мы яго робім".

— *Трэба сказаць праўду: адносіны з боку персаналу ў бальніцы былі розныя,* — дадала Паліна. — *Раздатчыца, напрыклад, не гледзячы, наліла мне ў шклянку з гарбатай кавы, а медсястра знайшла малому соску на бутэлечку і дазволіла пазваніць з рабочага тэлефона на аўтастанцыю, каб даведацца, як мне дабрацца дадому. Так што я на сабе адчула, што ніякая сістэма і правілы не атруцяць чалавека, калі ў яго няма інфекцыі ў галаве, а ёсць чуллівае сэрца.*

**ІРЫНА СІНІЦА**

# БЕЛАРУСКУЮ ЦАРКВУ Ў ЛОНДАНЕ

У новым праекце “Беларуская Брытанія” мы распавядзём пра беларусаў і брытанцаў, для якіх Беларусь больш, чым проста месца нараджэння ці модны знешнепалітычны трэнд.

Адкрывае нашу серыю гутарка з маладым лонданскім архітэктарам кітайскага паходжання **Цзыўай Рафаэлем СО**.

Якое дачыненне, запытаецеся вы, ён мае да Беларусі? Большае, чым асноўная маса нашых суайчыннікаў, што аднойчы прайшоўшы эміграцыйны кантроль, бясследна знікла ў тумане Альбіёна. Парафіянін беларускай грэка-каталіцкай царквы Св. Пятра і Паўла ў Лондане, Цзыўай Рафаэль захапляецца гісторыяй Беларусі, вывучае традыцыйную беларускую архітэктуру ды распрацоўвае праект новай беларускай царквы, якая мае паўстаць на поўначы Лондана ў бліжэйшай будучыні.




*Сапраўды жыве, калі пра яе пачалі клапаціцца брытанскія кітайцы*

## “ДЛЯ КІТАЙЦАЎ БЕЛАРУСЬ — “БЕЛАЯ РАСІЯ”

— Я нарадзіўся ў Кітаі. Аднак калі мне было тры гады, сям’я пераехала ў Ганконг, які тады яшчэ падпарадкоўваўся Вялікабрытаніі, — распавядае Цзыўай Рафаэль. — Там я скончыў ангельскую школу і ўніверсітэт у спецыяльнасці “архітэктар”. Пасля атрымаў паўнавартасны дыплом архітэктара ў Лонданскім універсітэце Метраполітэн. Цяпер кірую невялікай архітэктурнай кампаніяй ды выкладаю ў Мідлсэкскім універсітэце ў Лондане.

**— Калі ты ўпершыню пачуў пра Беларусь ці беларусаў?**

— Пра Беларусь чуў даўно і нямала. Як і многія кітайцы, выхаваныя ў духоўнай сімпатыі да братоў па камуністычным лагеры, я заўжды быў натхнёны СССР. Праўда, у кітайскай мове слова “Беларусь” памылкова замацавалася як “Белая Расія”. З гэтай прычыны многія блытаюць беларусаў з белымі рускімі — праціўнікамі бальшавізму ў грамадзянскай вайне ў Расіі.

Пазней я чуў пра першую лэдзі Тайваня, якая паходзіла з-пад Оршы *(Фаіна Вахрава —* **К.Л.***)*. Праўда, не ведаю, ці многія асацыявалі яе з Беларуссю.

Ваша краіна дня мяне была нібы ахутана заслонай таямнічасці. Расія і Белая Расія ў маёй свядомасці асацыяваліся з Паўночнай і Паўднёвай Карэяй. Я думаў, што гэта адны і тыя ж людзі, падзеленыя палітычна.

**— Як жа лёс звёў цябе з беларусамі ў Вялікабрытаніі?**

— У 2007 годзе Беларуская каталіцкая (уніяцкая) місія ў Англіі прадавала адзін з будынкаў у Лондане, а я працаваў на фірму, што гэты будынак набывала. Тады я пазнаёміўся з айцом Сяргеем Стасевічам. Ён з ахвотай зладзіў для мне экскурсію па беларускім цэнтры, распавёў гісторыю місіі. Паколькі жыў паблізу, стаў рэгулярна яго сустракаць, наведваць мерапрыемствы, пазнаёміўся з беларускай суполкай.

У Ганконгу я вучыўся ў каталіцкай школе, але не быў хрысціянінам. У Лондане пачаў наведваць англіканскую царкву недалёка ад дома. Айцец Сяргей Стасевіч шмат распавядаў пра каталіцтва і праваслаўе, пазычаў кнігі пра ўсходняе хрысціянства. Я зацікавіўся, стаў рэгулярна наведваць нядзельныя богаслужбы ў беларускай грэка-каталіцкай царкве Святых Пятра і Паўла, і ўрэшце прыняў там хрост.

**— Ты не разумееш ні беларускай, ні рускай мовы. Ці камфортна пачуваешся сярод тутэйшых беларусаў?**

— З гледзішча ментальнасці і многіх звычак, што фармуюцца ў дзяцінстве, у нас з беларусамі шмат падобнага. Я нарадзіўся ў краіне, дзе кіроўнай была кампартыя, жыў у шматкватэрным панельным доме… Традыцыі грэка-каталіцкай царквы, канечне, былі для мяне адкрыццём. Моўны бар’ер істотны, але спадзяюся знайсці спецыяліста, які дапаможа мне вывучыць беларускую.

“Цяжкасці перакладу” (не забывайцеся, што тут усе валодаюць ангельскай) кампенсуюцца беларускай добразычлівасцю, гасціннасцю. У некаторых культурах прынята вітаць адно аднаго пры першай сустрэчы ледзь не абдымкамі. Але гэта толькі жэст, які не азначае, што чалавек ставіцца да цябе неяк асабліва. Беларусы пры сустрэчы вельмі стрыманыя. Але і цэняць сяброўства яны нашмат болей. Калі беларус называе некага сябрам, гэта сапраўды блізкі чалавек, а не проста адзін з дзесяткаў знаёмых.

Мой досвед у зносінах з брытанскімі беларусамі быў падмацаваны сёлетняй паездкай у Беларусь. Людзі рабілі ўсё магчымае, каб дапамагчы мне, удзяліць ўвагу. Нават калі гэта азначала для іх дадатковыя цяжкасці і праблемы. Я, сапраўды, магу назваць беларускіх знаёмых сябрамі, бо перакананы, калі буду ў бядзе, яны мне дапамогуць. Не магу сказаць падобнае пра большасць сваіх знаёмых з іншых краінаў. Канечне, я раблю высновы толькі на падставе тых людзей, з кім пазнаёміўся. Напэўна, не ўсе такія. Гэтак, падчас знаходжання ў Бела-

**БЕЛАРУСКАЯ БРЫТАНІЯ**

**Хаця гісторыя беларуска-брытанскіх кантактаў бярэ свой пачатак яшчэ ў 15 стагоддзі (у 1480 г. Ян Літвін з Вялікага Княства Літоўскага адкрыў у Лондане друкарню), наша прысутнасць на Брытанскіх выспах стала заўважнай толькі пасля Другой сусветнай вайны. Для тысяч беларусаў — жаўнераў 2-га польскага корпуса брытанскіх узброеных сіл (Армія Андэрса) — Брытанія стала толькі часовым прыбежышчам, аднак кінутае зерне прарасло. З таго часу ў паўночна-заходняй частцы Лондану несупынна дзейнічае беларускі рэлігійна-культурны цэнтр з грэка-каталіцкай царквой Святых Пятра і Паўла і ўнікальнай Беларускай бібліятэкай-музеем імя Францішка Скарыны. Сёння Вялікабрытанія застаецца адной з найбольш цяжкадасяжных краінаў для імігрантаў, але нешматлікая беларуская супольнасць на Альбіёне цягам дзесяцігоддзяў захоўвае статус адной з найбольш актыўных беларускіх дыяспар у свеце.**

# СПРАЕКТАВАЎ…КІТАЕЦ

русі мне ледзь не надавалі кухталёў у аўтобусе, калі я паспрабаваў патлумачыць двум хлапцам нападпітку, што яны занялі маё месца.

## “НА БЕЛАРУСКАЙ ЦАРКВЕ Ў ЛОНДАНЕ НЕ БУДЗЕ “ЦЫБУЛІНЫ”

**— Але ты не проста наведваеш беларускую царкву і культурныя імпрэзы. Цяпер ты працуеш над праектам новай беларускай грэка-каталіцкай царквы ў Лондане…**

— Пра планы пабудовы новай царквы (цяпер яна месціцца ў памяшканні былой грамадскай залы) ўпершыню пачуў гады чатыры таму. З розных прычын справа не вельмі рухалася з месца, і аднойчы айцец Сяргей прапанаваў мне паспрабаваць распрацаваць праект. На той момант я нічога не ведаў пра беларускую архітэктуру. Пачаў чытаць, вывучаць літаратуру. Перагледзеў каля двух дзясяткаў патэнцыйных дызайнаў для будучай царквы. Ніводзін з іх не пасаваў, таму сёлета я выправіўся на Беларусь, каб на ўласныя вочы паглядзець на старадаўнія беларускія бажніцы. Прычым галоўным аб’ектам майго інтарэсу было драўлянае дойлідства. Я пабываў у Мінску, Лідзе, Івацэвічах, а таксама у вёсках і мястэчках на Гарадзеншчыне і Берасцейшчыне (Ганчары, Мураванка, Аброва, Бялавічы, Бусяж, Косава).

**— Што значыць ніводзін з папярэдніх дызайнаў “не пасаваў”?**

— Гісторыя Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі бярэ пачатак у канцы 1940-х. І ўвесь гэты час яна звязаная з асвячаным месцам у лонданскім раёне Паўночны Фінчлі. Тут месціцца Беларускі рэлігійны і культурны цэнтр імя святога Кірылы Тураўскага ўключна з легендарнай Скарынаўскай бібліятэкай і Марыян Хаўз (“Марыйным домам”), дзе жыла цэлая група беларускіх святароў усходняга абраду. Гэта адзін з цэнтраў беларускага жыцця за мяжой, якое дзесяцігоддзямі прыцягвала інтэлектуалаў з усяго свету.

Таму перш, чым узяцца за распрацоўку праекта беларускай царквы, я мусіў зразумець, што значыць слова “беларуская”. Выявілася, што гэта не такая простая задача, бо Беларусь — гэта свайго кшталту Атлантыда. У цяперашнім разуменні яна не існавала на палітычнай мапе да 1918 года. Але людзі жылі на гэтай зямлі тысячы год. Чым болей я чытаў, тым болей я даведаўся, што менавіта продкі цяперашніх беларусаў складалі аснову жыхароў Вялікага княства Літоўскага. Яны былі носьбітамі развітай еўрапейскай культуры, чым сёння могуць ганарыцца. І Грэка-каталіцкая ці Уніяцкая царква была не проста самай распаўсюджанай рэлігіяй на гэтых землях, але і неад’емным складнікам гэтай культуры. Аднак з таго часу, як Расійская імперыя падначаліла беларускія землі ды зліквідавала ўнію (1839), уніяцтва выпала з беларускага рэлігійнага кантэксту больш чым на паўтара стагоддзя.

Таму будучая беларуская царква ў Лондане мусіць стаць не проста функцыянальным памяшканнем, але і своеасаблівым помнікам беларушчыне, увасабленнем беларускага духу і адлюстраваннем беларускай культуры.

Я назаўжды запомніў словы кіраўніка місіі айца Аляксандра Надсана: “Беларусы не лепшыя і не горшыя за іншыя народы. У нас ёсць свая ўнікальная мова і культура, дадзеныя нам Богам. Мы павінны іх захоўваць, бо без гэтага не будзе нас”.

Разам з тым відавочна, што існуе багата непаразуменняў што да Беларусі ў свеце, нястача ўвагі. Таму пабудова беларускай царквы ў брытанскім асяродку — нібыта сказаць: “Мы тут! Мы існуем!” Мы маглі зрабіць звычайны будынак ды прымацаваць на яго крыж, як робяць многія. Але мы хочам паказаць, што гэта беларускае месца, яно ўнікальнае і адрознае ад іншых.

Я таксама хачу прадэманстраваць, што апроч тысячагадовай гісторыі, прыгожай мовы і багатай літаратуры ў беларусаў ёсць і таленавітыя архітэктары. Калі запытацца ў сярэднестатыстычнага брытанскага школьніка, што ёсць беларуская архітэктура, у лепшым разе ён сказа нешта пра рускія цэрквы з характэрнымі цыбулінамі. Менавіта таму я прысвяціў асаблівую ўвагу вывучэнню купалоў-вежаў у беларускай традыцыйнай архітэктуры. І адразу адмовіўся ад “цыбуліны”, бо гэта перадусім расійскі элемент.

**— Ты з такім імпэтам распавядаеш пра гэты праект. Чаму ён такі важны для цябе?**

— Дагэтуль я рабіў больш маштабныя праекты, але нішто не было такім адмысловым. Гэтую царкву я раблю ад свайго сэрца, а не дзеля грошай. Маёй кампаніі прыйшлося нават адхіліць некалькі канкрэтных прапановаў, бо я накіраваў сюды асноўныя рэсурсы. Але яно таго вартае. Пабудаваць храм — мара любога архітэктара. Для мяне гэта падвойны прывілей, бо я ж яшчэ і хрысціянін.



*Не толькі мы спрабуем зразумець Кітай, але і кітайцы – нас*

## “ШМАТ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯЎ НАЗАД БЕЛАРУСЬ БЫЛА ТАКОЙ ПРЫГОЖАЙ, ЯК ВІЛЬНЯ”

**— Вяртаючыся да леташняй вандроўкі ў Беларусь, што цябе там найбольш уразіла?**

— Я ўбачыў у беларусах нешта такое, на што яны самі не зважаюць увагі — чалавечнасць. У капіталістычным грамадстве, асновамі якога ёсць рынак і канкурэнцыя, людзі засяроджаны на сабе і ўласных праблемах.

З іншага боку заўважыў, што людзі ў Беларусі выглядаюць стомленымі. Прычым не столькі знешне, колькі ментальна. У мяне склалася ўражанне (і я часта чую гэта ад беларусаў у Беларусі і ў Брытаніі), што людзі страцілі надзею нешта там змяніць. Таму імкнуцца наладзіць уласнае жыццё і дабрабыт, альбо абстрагаваўшыся ад нацыянальных праблем, альбо з’ехаўшы за мяжу.

Але без веры нічога не будзе. Вазьміце, напрыклад, праект нашай царквы. У нас яшчэ няма пэўнасці ў фінансаванні, не атрыманы дазвол ад мясцовых улад. Аднак я веру, што гэта магчыма і раблю тое, што ад мяне залежыць. Гэта адзіны спосаб дасягнуць мэты, якой бы неверагоднай яна не падавалася. Многія беларусы ні ў што не вераць, і гэта сумна.

**— Якой ты пабачыў беларускую архітэктуру?**

— Найбольш мяне ўразілі аўтэнтычныя драўляныя пабудовы ў музеі архітэктуры і побыту “Строчыцы”: настолькі характарныя, паўсталыя з беларускай культуры і традыцыяў! У той дзень ішоў дождж, але мне падавалася, што трапіў у казку.

Мінск, адбудаваны ў сталінскім стылі, — грандыёзны, імперскі, манументальны. Не магу сказаць, што мне гэта вельмі спадабалася. Але гэта таксама частка гісторыі.

*Заканчэнне. на стар. 8*

# БЕЛАРУСКУЮ ЦАРКВУ Ў ЛОНДАНЕ СПРАЕКТАВАЎ...КІТАЕЦ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 7*

У мястэчках, дзе я аглядаў традыцыйныя храмы, мяне расчаравала тое, што людзі не цэняць багацце, якое ў іх ёсць. Узяць хаця б паўсюдную блакітную металічную дахоўку, якой замянілі традыцыйную чарапічную. Заміж гістарычных вежачак-сігнатурак — залатыя рускія "цыбуліны"... Відавочна, што людзям, якія нясуць адказнасць і бяруцца за гістарычныя аб'екты, нестае ведаў, адукацыі і разумення. Я меў доўгую гутарку з рэстаўратарам з Шатландыі, які ўдзельнічаў у канферэнцыі ў Беларусі, прысвечанай рэканструкцыі палаца Радзівілаў у Нясвіжы. Ён звярнуў увагу, што беларусы, напрыклад, абсалютна не ведаюць, як захоўваць тонкае мастацкае аздабленне інтэр'ераў. Выкарыстоўваюцца звычайныя будаўнічыя падыходы да таго, што было зроблена некалькі стагоддзяў назад. Гэта абсурд.

По дарозе дамоў я наведаў Вільню. У Мінску ты бачыш адну барочную катэдру, нешта ў адным месцы, нешта ў другім — цэласнага адчування гістарычнасці няма. Адсутнічае сувязь з мінулым. У Вільні ўсё гэта перад тваімі вачыма, і я зразумеў, якой прыгожай шмат дзесяцігоддзяў назад была Беларусь.

Вядома, што велізарныя страты архітэктуры Беларусі нанеслі войны. Але вы ж столькі ўсяго страцілі ў мірныя часы! Чаму? Бо большасць не разумее важнасці, вартасці і значэння архітэктуры.

Між тым, архітэктура вылучаецца з культуры. Калі культура багатая, гэта знаходзіць адлюстраванне і ў архітэктуры. Архітэктурная спадчына — частка ментальнасці, нацыянальнай ідэнтычнасці. Калі чалавек робіць пластычную аперацыю на твары ці пачынае размаўляць на іншай мове, ён перастае быць сабой. Мінулае — паказчык таго, хто ты ёсць. Людзі павінны ганарыцца сваёй архітэктурай, а мне падаецца, што большасць беларусаў да гэтага абыякавыя. Пры такім раскладзе не выпадкова, што вы столькі ўсяго страцілі і працягваеце страчваць. Відавочна, што гэта адзін з вынікаў недахопу ў людзей нацыянальнай свядомасці і ідэнтычнасці.

Мне гэта дзіўна, бо ўсе мае знаёмыя беларусы якраз-ткі пераймаюцца пытаннямі спадчыны, ведаюць гісторыю і імкнуцца нешта рабіць, каб адбудаваць мост паміж мінулым, цяперашнім і будучыняй у свядомасці нацыі. Можа, гэтымі парадоксамі Беларусь для мяне і прыцягальная. Чым болей для сябе я адкрываю, тым болей мне хочацца даведвацца.

*Рафаэль, як нашага героя найчасцей клічуць у Лондане, можа гаварыць пра Беларусь гадзінамі. Згадваючы пра беларусаў, ён падсвядома прамаўляе "мы", перапрашае за агаворку і праз нейкі час зноў паўтараецца. І не дарма. Прачытаўшы інтэрв'ю, вы можаце не паверыць, што чалавек, які большую частку жыцця пражыў у іншым вымярэнні, мае нагэтулькі яснае ўяўленне пра беларускі феномен. Падобным могуць пахваліцца нямногія беларусы. Таксама нячаста пабачыш, каб суайчыннікі рабілі грамадскую справу з такім імпэтам, натхненнем і верай у вынік. "Трэба ўлезці ў галаву беларусаў, каб зразумець, ці спадабаецца ім мой праект, ці адпавядае ён беларускім традыцыям", — увесь час паўтарае Рафаэль. Ці многія ягоныя беларускія калегі пераймаюцца падобным?*

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ, ЛОНДАН**



*Нават іншаземцы пачынаюць разумець, што Беларусь – гэта не толькі і не столькі буслы*



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 07.12.12
Тыраж 299 экзэмпляраў